www.nv-online.info

№ 86 (3827)

1 лістапада 2013 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец: УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
*Якуб КОЛАС*

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

АКТУАЛИИ



Светлана КАЛИНКИНА

# Перемен!

**С элегантностью человека, одетого в два бронежилета, Александр Лукашенко призвал молодежь бояться перемен.**

**Дословно это звучало так: “И хотя молодости всегда свойственно требовать радикальной ломки и немедленных перемен, я призываю вас задуматься над уроками истории. Приносили ли потрясения кому-либо счастье? Нет, они несли с собой только смятение в умах, беды и разруху. И никогда, подчеркиваю, никогда не обходились без крови”.**

**Видимо, Лукашенко уже забыл себя самого образца 1994 года, когда лично призывал к прямо противоположному — не бояться перемен. Когда видел причину бед белорусов в нашем пресловутом национальном долготерпении.**

***“Нам всем придется расплачиваться за то, что мы так долго терпели несостоятельную политику давно обанкротившегося правительства”,*** **— это был один из самых мощных заключительных аккордов предвыборной программы кандидата в президенты Александра Григорьевича Лукашенко. И, по иронии судьбы, без малого через 20 лет этот тезис вновь стал актуальным.**

**А вот призывы остановить время и бояться перемен, наоборот, похожи на отчаянные и беспомощные заклинания испуганного и дезориентированного человека.**

**Во-первых, потому что они глупы. С тем же успехом можно уговаривать зиму, чтобы она не приходила, или старость — чтобы обошла тебя стороной.**

**Во-вторых, это нечто похожее на позу: свесить ноги и канючить: “Ребята, ничего не меняйте, потому что будет только хуже”.**

**В-третьих, это, мягко говоря, откровенно антинаучно — делать далеко идущие обобщения из одного прецедента. Да, в 1994-м белорусы неудачно поменяли власть. Да, один раз вышел прокол. Зато теперь уже горьким опытом научены.**

**Ну, а если серьезно, то, на мой взгляд, главное, что Александр Лукашенко украл и у Беларуси, и у белорусов, — это время. Вся история его правления — это сказ об упущенных возможностях, о проблемах, которые мы сами себе сочиняли, о тупиках, в которые мы сами себя заводили, о потерянном времени.**

**Много лет он нам твердил, что нет у Беларуси другой перспективы, кроме как пристроиться в хвост России и потиху к ней присмоктаться. Мол, “в Европе нас никто не ждет”.**

**Но, оказалось, ждут. Еще как ждут!**

**И более решительным, более хитрым, более мудрым руководителям стран-соседей, чтобы это понять, много времени не понадобилось.**

**Вот, к примеру, Виктор Янукович. Его отец из белорусской деревни Януки Докшицкого района, мать русская — ну, кто еще в Украине мог быть более “пророссийским президентом”? Коммунист, “красный директор”, “ставленник Москвы”, “пешка российских олигархов”, как его называли во время выборов… Но этот человек пришел к власти с помощью кремлевских политтехнологов, а после этого сказал: “Спасибо, ребята! Давайте будем добрыми соседями, но ориентироваться на вас — это как строить дом на пороховой бочке. У вас самих проблем — как у Бога грешников. А украинцы заслужили нормальной жизни”.**

**И Украина взяла курс на Евросоюз. Тем самым превратив в ничто главный аргумент Александра Лукашенко “Нас там никто не ждет!”, которым он много лет оправдывал свои собственные страхи и комплексы, попытки представить стратегией развития страны политику поиска жалких крох с барского стола по российским тупикам и закоулкам. Потому что Украина доказала: можно и нужно было идти в Европу, нас там ждали и ждут.**

**Сегодня приедешь в Киев — радостно за людей. Улыбаются, воодушевленные, атмосфера эмоционального подъема, сбывающихся надежд. У людей глаза горят — они осознали, что окончательно и бесповоротно прекратили поиск того “особого пути”, который уже однажды привел шестую часть суши к ГУЛАГУ, очередям и товарам по карточкам. Они становятся европейцами, перед ними открываются двери цивилизованного мира, появляются шансы на нормальную жизнь.**

**Эта радость — радость человека, начинающего строить свой дом: он прекрасно понимает, что проблем будет много, но эти трудности преодолимы, и все не зря, ради детей и внуков — чтобы у них этих проблем уж точно не было.**

**Молдова, опять же. Нищая аграрная страна. Многие годы несчастная, потому что ею и после развала Советского Союза правили коммунисты, которые тоже цеплялись за некий “особый путь”. Молдаване терпели-мирились, боялись-сомневались, но все-таки сковырнули коммунистов с первых постов. И ожила страна. Новый президент, новое правительство повели Молдову в том направлении, где свобода, достаток, надежность, защищенность, уважение прав человека — повели в нормальную жизнь. Молдова в ноябре тоже подписывает Договор об ассоциации с Евросоюзом, а дальнейшая перспектива — вступлении в ЕС.**

**И вот это главное слово — перспектива. У страны, у людей, у общества появилась перспектива.**

**А какие перспективы у нас?**

**Мы, как и последние двадцать лет, продолжим искать внутри Беларуси “пятую колонну”, а в экономике “пятый угол”? Потому что уже очевидно, что в государство с такой властью, с такими судами, с таким произволом правоохранителей ни новые технологии, ни новые инвестиции не идут.**

**Закроем рынок и будем душить белорусов ценами на белорусские же товары, потому что больше их продать некому?**

**Люди, род занятий которых “мы не пашем, не сеем, не строим, мы гордимся общественным строем”, — паразиты, существующие на наши деньги, и дальше будут затыкать рот всем недовольным?..**

**Ну сколько еще это может продолжаться? И к чему приведет?**

**Болезнь, которая подкосила Беларусь, имеет симптомы, которые в медицине называют закупоркой сосудов. Если она поражает нижние конечности, то развивается гангрена, они загнивают. Посмотрите на местную вертикаль, которая у нас без команды сверху не способна решить даже самые простые вопросы, — симптомы загнивания налицо.**

**Когда приток свежей крови затруднен наверх, во власть, в мозг государства, то это приводит к слабоумию — неспособности управлять собой, адекватно реагировать, судорогам, слепоте, потере сознания…**

**Так что лечение необходимо. Причем, срочное. И что бы там ни говорил историк-экономист Лукашенко, единственный способ спасения стран, оказавшихся в тупике, застое, глубоком политическом и экономическом кризисе, — это смена власти. Других рецептов история не знает.**

**Если власть еще в сознании, то она должна понимать, что лучше это делать через честные выборы. Чтобы без крови.**

АКЦЫЯ

## *Шэсце ў Курапаты пройдзе 3 лістапада*

Мінскі гарадскі і абласны выканаўчыя камітэты задаволілі заяўку Кансерватыўна-Хрысціянскай партыі — БНФ на правядзенне традыцыйнага шэсця і мітынгу памяці продкаў “Дзяды”.

У гэтым годзе акцыя пройдзе ў нядзелю 3 лістапада. Збор удзельнікаў прызначаны на 10.30 каля гадзіннікавага завода. У 11.00 пачнецца само шэсце ў Курапаты.

Удзельнікі акцыі пройдуць па традыцыйным маршруце ад мінскага парку Чалюскінцаў да ўрочышча Курапаты праспектам Незалежнасці, вуліцамі Каліноўскага, Сядых, Карбышава, Гамарніка і Мірашнічэнкі. Менавіта такі маршрут узгоднены з уладамі.

**Працяг тэмы на стар.2.**

ФОРУМ

## *Не прыехалі*

*“Сітуацыя ў Беларусі павінна змяніцца, і ключ да гэтых змен — у руках беларускіх улад”,* — заявіў намеснік міністра замежных спраў Літвы **Андрус Крывас,** выступаючы на Міжнароднай канферэнцыі “Стратэгіі будучай палітыкі ЕС у дачыненні да Беларусі”, якая адбылася ў Вільнюсе.

Ён падкрэсліў, што самае галоўнае патрабаванне ЕС застаецца нязменным — вызваленне і рэабілітацыя ўсіх палітычных зняволеных у Беларусі.

Крывас адзначыў, што Літва падтрымлівае “палітыку крытычнага ўзаемадзеяння”, якую ЕС праводзіць у дачыненні да Беларусі.

Еўрасаюз, паводле слоў літоўскага чыноўніка, адзначае некалькі пазітыўных захадаў з боку Беларусі — у прыватнасці вітае згоду Мінска на аднаўленне працы шведскага пасольства ў Беларусі. *“Мы заўважылі, што Беларусь не далучылася да дыскрымінацыйных эканамічных мер, якія Расія прымяняла супраць Украіны і Малдовы. Мы таксама вітаем, што Беларусь працуе над пытаннем прызнання тэрытарыяльнай цэласнасці Грузіі”,* — сказаў Крывас.

Ён нагадаў, што ЕС прапанаваў Беларусі пачаць перамовы аб спрашчэнні візавага рэжыму, і выказаў надзею, што беларускі бок усё ж прыме гэтую прапанову.

Намеснік кіраўніка літоўскага МЗС выказаў шкадаванне ў сувязі з тым, што запрошаныя на цяперашнюю канферэнцыю ў Вільнюс міністр замежных спраў Беларусі **Уладзімір Макей** і яго намеснік **Алена Купчына** не прыехалі.

*“Хоць я разумею ўразлівасць беларускіх калег — сёння тут будзе гучаць шмат крытычных выказванняў. Але важна таксама разумець, што для прагрэсу неабходна весці дыялог”,* — падкрэсліў спадар Крывас.

БЕЛАРУСЬ—ЕС

# Мінус 13, плюс 3

*Афіцыйны журнал Еўрапейскага Саюза апублікаваў абноўлены спіс беларускіх чыноўнікаў, якія знаходзяцца пад візавымі і маёмаснымі санкцыямі.*

У спіс грамадзян, якія трапілі пад санкцыі ЕС, унесены тры новыя прозвішчы:

— **Аляксандр Какунін** (начальнік Бабруйскай папраўчай калоніі №2, дзе адбывае пакаранне праваабаронца Алесь Бяляцкі),

— **Юрый Трутко** (намеснік начальніка Бабруйскай папраўчай калоніі №2).

— **Аляксандр Лапатка** (начальнік Горацкай калоніі).

Адначасова са спісу выдалены прозвішчы 13 чалавек:

— **Аляксандр Драніца** (ваенны пракурор),

— **Анатоль Дудкін** (транспартны пракурор),

— **Вольга Комар** (былы суддзя Фрунзенскага раёна Мінска),

— **Мікалай Кулік** (былы пракурор Мінска),

— **Мікалай Купрыянаў** (былы намеснік генпракурора),

— **Уладзімір Курловіч** (былы старшыня Мінскай абласной выбарчай камісіі),

— **Леанід Лучына** (былы старшыня Гродзенскай абласной выбарчай камісіі),

— **Мікалай Мяцеліца** (былы старшыня Магілёўскай абласной выбарчай камісіі),

— **Уладзімір Міхасёў** (былы старшыня Гомельскай абласной выбарчай камісіі),

— **Надзея Равуцкая** (суддзя Маскоўскага раёна Мінска),

— **Уладзімір Русакевіч** (былы міністр інфармацыі),

— **Яўген Смірноў** (былы першы намеснік старшыні Вышэйшага Гаспадарчага суда),

— **Мікалай Трубнікаў** (былы суддзя Партызанскага суда Мінска).

Еўрасаюз таксама зняў санкцыі з некалькіх кампаній, якія належаць бізнесмену **Уладзіміру Пефціеву**.

Чаму ў спіс спачатку былі ўключаны, а цяпер выключаны дзейсныя пракуроры, шчыра кажучы, не зразумела.

У абноўленым спісе цяпер значацца 232 прозвішчы і 25 прадпрыемстваў. Да гэтага пад візавыя і эканамічныя санкцыі ЕС траплялі 242 беларускія чыноўнікі, у тым ліку Аляксандр Лукашэнка.

РЭАКЦЫЯ

Лідар руху “За Свабоду” **Аляксандр МІЛІНКЕВІЧ** мяркуе, што змены ў “чорным спісе” ЕС — пазітыўная з’ява. *“Гэта абсалютна слушны крок. Спіс неўязных павінен быць дынамічным, ён не мусіць быць раз і назаўсёды. Хтосьці будзе дабаўляцца, хтосьці будзе знікаць з яго. Але спіс будзе заставацца, пакуль будуць палітвязні. Еўропа сваімі прынцыпамі не паступіцца”,* — заявіў палітык.

Супрацьлеглай думкі прытрымліваецца сустаршыня аргкамітэта па стварэнні партыі “Беларуская хрысціянская дэмакратыя” **Віталь РЫМАШЭЎСКІ:** *“Я лічу, што гэта палітычна памылковы крок. Паколькі гэта значыць, што каты на пенсіі або ў адстаўцы будуць рэабілітаваны. Па сутнасці, гэта станоўчы сігнал для тых, хто рэпрэсуе, і яны могуць быць упэўнены ў сваёй беспакаранасці. Сёння яны здзяйсняюць рэпрэсіі і фальсіфікуюць выбары, а заўтра, сыдучы ў адстаўку, зарабіўшы дывідэнды і будучы аблашчанымі дзеючым рэжымам, таксама могуць разлічваць на сваю беспакаранасць з боку дэмакратычных краін свету”.*

АФІЦЫЙНА

МЗС Беларусі заўважыў тэндэнцыю скарачэння санкцый ЕС, але настойвае на іх поўнай адмене. Аб гэтым паведаміў начальнік упраўлення інфармацыі — прэс-сакратар Міністэрства замежных спраў Беларусі **Андрэй Савіных,** каментуючы падаўжэнне на год абмежавальных мер з боку Еўрасаюза ў дачыненні да Беларусі. Па яго словах, “гэта пазітыўны крок, аднак у цэлым рашэнне ЕС контрпрадуктыўнае”. “Гэтыя санкцыі бесперспектыўныя і павінны быць цалкам адменены. На іх аснове немагчыма выбудаваць партнёрства ў інтарэсах грамадзян Беларусі і ЕС”, — падкрэсліў Андрэй Савіных.

ТЫМ ЧАСАМ

## Былы вязень бароніць турэмшчыка

Былы палітвязень Зміцер Дашкевіч, які адбываў пакаранне ў Горацкай калоніі, лічыць, што начальніка калоніі Аляксандра Лапатку ўнеслі ў “чорны спіс” Еўрасаюза проста па інерцыі.

*“Ён, у прынцыпе, пакідае ўражанне аднаго з найбольш адэкватных людзей і ў Горацкай калоніі, і ва ўсёй турэмнай сістэме Беларусі,* — сказаў Дашкевіч. — *Ён па адукацыі, што цікава, настаўнік беларускай мовы і літаратуры. Асноўныя рэпрэсіі, калі я быў у Горацкай калоніі, здзяйсняў кіраўнік аператыўнага аддзела Петраковіч. Ён расстаўляў блатных, і гэтыя блатныя выконвалі ўсё, што ён скажа, — збівалі людзей, учынялі разборкі “па паняццях” і гэтак далей”.*

Па словах Дашкевіча, Лапатка быў намеснікам кіраўніка Горацкай калоніі, калі ў папярэдні “чорны спіс” ЕС унеслі тагачаснага кіраўніка Кавалёва. Потым Кавалёў пакінуў сваю пасаду, а Лапатка заняў месца кіраўніка калоніі. Верагодна, кажа былы палітвязень, Лапатку ўнеслі ў спіс па інерцыі — на месца Кавалёва.

ВІЗІТ



## *З Масквы ў Парыж з залётам у Мінск*

**Прэзідэнт Эквадора Рафаэль Карэа ў ходзе еўрапейскага турнэ ў сераду вечарам прыляцеў у Мінск. У чацвер адбылася яго сустрэча з Аляксандрам Лукашэнкам. Цікава, што на самым пачатку сустрэчы Рафаэль Карэа прызнаў, што ў ягонай краіне ўвогуле нічога не ведаюць пра Беларусь. Што ж, можа, пасля яго наведвання нашай краіны эквадорцы будуць нешта ведаць пра Беларусь.** ***Фота АР.***

ПРОГНОЗ

# Будет — не будет?

Главный редактор журнала “Валютное регулирование и ВЭД” **Владимир Артюгин** рассказал “Белорусской деловой газете” о перспективах белорусской экономики. Первая половина 2014 года — последний срок, когда может быть проведена девальвация, уверен экономист.

— Экономика опять вошла в состояние диспропорции, курс опять искусственно сдерживается, поэтому девальвация — это в любом случае вопрос времени, — говорит Владимир Артюгин. — Причем, на мой взгляд, при самом удачном стечении обстоятельств девальвация придется на первую половину следующего года — это максимальный срок. Зарплаты если и будут расти, то запланированными темпами.

Если проводить девальвацию осенью, то еще можно уложиться в 30%-ное обесценивание белорусского рубля, если отложить ее до конца декабря, то обесценивание составит уже 50%. Ну а далее — это уже девальвация в разы.

Плавная девальвация была бы возможна, если бы ее начали проводить с июля. Тогда можно было бы где-то по 300 рублей в месяц отпускать курс и тем самым выйти на ожидаемыеся 12—13 тысяч за доллар в спокойном режиме. Так как время упущено, теперь это будет уже не 300 рублей, а 600—700, если прямо сейчас начать. Но это уже население вряд ли воспримет адекватно и в любом случае побежит спасать свои деньги.

Поэтому альтернативы разовой девальвации нет. Попытка сделать плавную девальвацию приведет к очередям в обменниках, снятию депозитов, вымыванию валютных ресурсов из банковской системы. Опыт 2011 года показывает, что только через год удалось восстановить “додевальвационную” ситуацию. А Беларуси сейчас срочно нужны деньги. Поэтому будет разовая девальвация, сейчас определяются только ее сроки и объемы.

Напомним, что Александр Лукашенко по поводу возможной девальвации уже несколько раз высказывался в том смысле, что если она будет, то в этом виноваты сами люди. В свою очередь министр экономики Николай Снопков гарантировал, что повторения 2011 года не будет.

**Игорь МОРОЗОВ.**

ПАДЛІЧЫЛІ

## *На Беларусь насоўваецца «дэмаграфічная зіма»*

Паводле дадзеных даклада Фонду ААН у галіне народанасельніцтва, Беларусь да 2015 года стане адным з сусветных лідараў па змяншэнні колькасці насельніцтва.

Паводле прагнозаў экспертаў фонду, чакаецца, што самы высокі сярэднегадавы паказчык па змяншэнні насельніцтва будзе зафіксаваны ў Малдове і Балгарыі (0,8%), ва Украіне і Латвіі (0,6%), у Сербіі, Беларусі і Літве (0,5%).

А вось прырост насельніцтва, які дэманструюць Аман і Катар, у перспектыве да 2015 года дасць ім магчымасць захоўваць самыя высокія пазіцыі па гэтым паказчыку не толькі сярод краін Персідскага заліва, але і ва ўсім свеце.

Сярэдняя працягласць жыцця ў Беларусі складзе ў гэты перыяд у жанчын 76 гадоў, у мужчын — 64 гады. Для параўнання: найбольшая сярэдняя працягласць жыцця чакаецца ў Японіі: 80 гадоў у мужчын і 87 гадоў у жанчын, а таксама ў Аўстраліі і Швейцарыі — 80 гадоў у мужчын і 85 гадоў у жанчын, найменшая — у Сьера-Леоне: 45 гадоў у мужчын, 46 гадоў у жанчын.

### Да ведама

Змяншэнне колькасці насельніцтва для эканомікі азначае змяншэнне колькасці рабочых рук. За студзень—верасень гэтага года на працу ў Беларусь прыехалі 6960 замежнікаў, гэта амаль у два разы больш, чым у папярэднім 2012 годзе. Лідарамі з’яўляюцца грамадзяне Кітая. Большасць мігрантаў працуюць у будаўнічым сектары па рабочых спецыяльнасцях. Сярод замежнікаў, якія заключылі ў Беларусі працоўныя дагаворы, 6681 мужчына і 279 жанчын.

КАРУПЦЫЯ

# Да дзесяці гадоў...



Былому старшыні Жыткавіцкага раённага выканаўчага камітэта пагражае да 10 гадоў пазбаўлення волі з канфіскацыяй маёмасці.

“Следчым камітэтам Беларусі завершана расследаванне крымінальнай справы ў дачыненні да былога старшыні Жыткавіцкага раённага выканаўчага камітэта Гомельскай вобласці”, — паведаміла афіцыйны прадстаўнік СК **Юлія Ганчарова.** Канчатковае абвінавачанне прад’яўлена па ч.3 арт.426 Крымінальнага кодэкса (перавышэнне ўлады і службовых паўнамоцтваў асобай, якая займае адказнае становішча, якое пацягнула цяжкія наступствы ў выглядзе нанясення ўрону ў асабліва буйным памеры).

Па словах Юліі Ганчаровай, шкода абвінавачаным пакрыты ў поўным аб’ёме. Цяпер справа перададзена ў Генеральную пракуратуру для вырашэння пытання аб накіраванні ў суд. Санкцыяй дадзенага артыкула прадугледжана пакаранне да дзесяці гадоў пазбаўлення волі з канфіскацыяй маёмасці і пазбаўленнем права займаць пэўныя пасады або займацца пэўнай дзейнасцю.

ТЫМ ЧАСАМ

## *Перадумалі*

*Арыштаванага дырэктара ААТ “Крычаўцэментнашыфер”* ***Леаніда Скоцкага*** *пазбавілі ганаровага звання “Чалавека года”.*

Нагадаем, што Скоцкі быў затрыманы па падазрэнні ў крадзяжы грашовых сродкаў у памеры 40 мільёнаў рублёў. Цяпер, не чакаючы суда, Крычаўскі райвыканкам сваім рашэннем пазбавіў яго ганаровага звання “Чалавек года Крычаўскага раёна” за “здзяйсненне карупцыйнага злачынства”. Адпаведную інфармацыю на сваіх старонках у матэрыяле “Пазбаўлены ганаровага звання” надрукавала дзяржаўная крычаўская раённая газета “Кричевская жизнь”.

Незалежная крычаўская газета “Вольный город” таксама паведамляе, што з жонкай арыштаванага генеральнага дырэктара, якая працавала дырэктарам музычнай школы №1 Крычава, пасля яго арышту кіраўніцтва ўпраўлення ідэалогіі, культуры і маладзёжнай палітыкі Крычаўскага райвыканкама скасавала кантракт і цяпер яна працуе простым педагогам. Па словах журналістаў “Вольного города”, раней ніякіх прэтэнзій з боку кіраўніцтва да працы Скоцкай не было, яна паспяхова спраўлялася са сваімі абавязкамі.

НАБОЛЕЛО!

М.А.КАДЫРОВ-БОРОВСКИЙ,
доктор сельскохозяйственных наук, профессор, лауреат Государственной премии в области науки и техники

# Без права голоса



Говорят, в своем Отечестве нет пророка. Потому и нет, что многие века одинокие голоса правдолюбов никак не сливались с хоровым славословием. Чаще всего правдивые пророческие откровения истреблялись на корню, как сорная трава. А тех, кому они принадлежали, — преследовали, казнили, лишали Родины. Травили лучших из лучших, соль земли...

И священнослужителей, и цвет народа. "Аресты, обыски, оскорбления и принудительные работы наши священнослужители принимали спокойно, без жалоб, без просьб о пощаде, но и без аффектаций, а "наглую" смерть в вонючем закоулке на рассвете дождливого утра у облупленной стены встречали кротко и величественно, как древние первомученики. Иные не могли сдержать в себе пламенного слова и произносили его с амвонов и с публичных кафедр, заранее зная, что их назавтра, а то и через час ожидает казнь..." Так писал в двадцатые годы минувшего века о национальной драме Российской империи Александр Куприн.

Стремление властей предержащих подавить иные взгляды, позиции, мнения, навязать единомыслие ни к чему хорошему привести не может. Кстати, и понятие единомыслия крайне извращено. Во времена Сократа под единомыслием понимали преданность и повиновение законам. Но ни в коем разе не мыслить, жить и действовать по единому шаблону, по одному образцу. Мудрость государства заключается не в том, чтобы искоренять и подавлять личное начало во всех областях человеческого бытия и культуры, а в умении создать из множества "частностей" сплав гармонии и равновесия.

В истории советского государства был период мучительной всеобщей тоски по Правде. Вспомним Солженицына — "Жить не по лжи", Шукшина — "Нравственность есть правда".

Казалось, прожитые советские времена, их печальные итоги должны были научить нас ценить, понимать великую целительную силу Правды. Но увы!

Власть никак не научится правдиво говорить с народом. Для нее это даже и не народ, а избирающий электорат, которым надо умело манипулировать. Средства массовой информации, показывая реальную жизнь, чаще всего лишают ее истинных смыслов, "натягивают балахон бессмысленности", превращают в "лубок" и "картинку позитива", примитивизируют, эксплуатируют не самые благородные запросы и инстинкты людей.

Набирающие все большие масштабы всеобщее оглупление, несвобода личности, унижение простого человека алчными бюрократами — наши главные сегодняшние беды. Убежден, что для современной Беларуси духовные ценности не менее важны, чем стремление к экономическому успеху или социальному благополучию людей.

Знаю точно, что у многих думающих белорусов ныне основное восприятие своей страны таково: уставшая от неконструктивизма, фальши, лжи, затаившаяся в тревоге и ожиданиях страна. Что варится в нашем котле?

А.Г.Лукашенко не может не понимать, что более 50 процентов (по меньшей мере), ныне не поддерживающих его, — это не худшая часть населения страны, а наоборот, наиболее образованная и динамичная. Далеко не всегда большинство (даже если оно и есть) право. Бывают ситуации, когда голоса оценивающих надо не только подсчитывать, но и "взвешивать".

Евгений Евтушенко так написал об этом:

*Подавляющее большинство,*
*Пахнешь ты, как навозная роза*
*И всегда подавляешь того,*
*Кто высовывается из навоза.*

*Удивляющее меньшинство,*
*Сколько раз тебя брали на вилы!*
*Подавляющее большинство,*
*Сколько гениев ты раздавило!*

Есть государства, в которых народ боится власти, а есть государства, в которых власть боится народа. Государства второго типа — демократические, первого — авторитарные и диктаторские. Нельзя не признать, что политический страх как фактор общественной жизни должен как можно быстрее уйти из обихода нашей повседневной жизни. Надо признать, что все мы, и власть и народ, еще не научились жить в обществе, где исчезает страх.

Эксплуатировать страх как рычаг управления проще, чем все другие, но эффективность этого рычага, когда он становится доминирующим, — временная и минимальная, он не имеет перспективы.

Очень важно в жизни белорусского общества все чаще видеть примеры общения с властью без боязни и раболепства, а с достоинством, культурой и независимостью. Это будет на пользу и власти, и народу.

К сожалению, в Беларуси нынче чиновник боится только вышестоящего чиновника. В сущности, он должен ныне, чтобы быть успешным, стараться выполнять прогнозные показатели (как правило, не выполняя их), не увольнять людей, не интересоваться политикой и быть "человеком президента". Все остальные его качества и способы достижения цели власть, по сути, не интересуют.

История человечества убедительно показала, что те общественные системы, которые обменивали Бога как идеал, как совесть, духовность, культуру на деньги, "льготный" доступ к жизненным материальным благам для отдельных "преданных" членов общества, оказались нежизнеспособными.

Несомненно, экономика очень важна. Но сегодня в Беларуси она имеет тенденцию, по крайней мере внешне, грубейшим образом подминать под себя все — сама при этом не становясь более эффективной. И добром это, как становится ныне все более заметно, не закончится. Принцип "хлеба и примитивных зрелищ" уже не раз опробовался в жизни разных народов. И всегда это заканчивалось трагедиями.

Нынешняя "кривая" политическая система порождает "кривую" экономику, а вместе они неизбежно порождают "кривую" жизнь, коррупцию, безнравственность, демагогию...

Вообще, тотальное "опрощение" культурной жизни в постсоветских странах породило дикое опрощение, вплоть до аморализма, и межгосударственных отношений на постсоветском пространстве. И это тенденции весьма и весьма опасные.

Есть мирское выражение: *"Мудрость — это ум, настоянный на совести".* А в Библии эта мысль выражена так: *"В лукавую душу не войдет премудрость, а если и войдет, то не будет обитать в теле, порабощенном грехами".*

Хоть и банально звучит, но нельзя не сказать, что наше спасение ныне в приобретении интеллигентности и властью, и народом. Интеллигентности как обладания образованностью, обостренным чувством совестливости, интеллектуальной независимости.

Справедливости ради отмечу, что и сам народ (конечно же, не по его вине) не слишком озабочен самосохранением, саморазвитием и стремлением к знаниям, духовности, культуре.

На дворе XXI век, а мы в Беларуси из поколения в поколение настойчиво воспроизводим губительные привычки и обычаи (несколько утрированный, но многое в себя вбирающий пример — пресловутая реклама: "Вып'ем па чарачцы, з'ядзім па скварачцы, жывіце ў радасць!"). Негоже власти поддерживать и сознательно эксплуатировать дурные наклонности людей: пьянство, недостаточную культуру питания, нарастающее общее бескультурье...

Потому и живем так мало, потому и рождается нас меньше, чем умирает, потому никак и не достигнем довоенной численности населения...

Мы должны отчетливо понимать: спивающийся, деградирующий, нищающий народ рано или поздно лишается национальной культуры, теряет способность к современной модернизации и в конечном итоге отдает себя во власть нациям, строже относящимся к своей жизни. А ведь многострадальный белорусский народ — поистине добр, терпелив, бесконечно трудолюбив. Потенциал его огромен. Надо только создать условия для его раскрытия — материальные, культурные, духовные. Надо поверить в него. А не подсовывать ему, не питать его всякой информационной примитивщиной, образно говоря, превращая его в лошадь с шорами, которая видит дорогу перед собой, в основном под ногами, и над которой постоянно стреляет кнут.

В советское время часто звучала песня, в которой были такие слова: "Вера в людей, вера в людей — главное наше оружие!" Конечно, и тогда этой веры не было, но хоть декларировали ее.

Есть ли у нынешних белорусских властей вера в свой народ?

Если есть, то надо говорить с ним всерьез и по существу. Поднимать его, а не спаивать. Не замалчивать животрепещущие вопросы нашей жизни, а своевременно, остро ставить их и гласно обсуждать. Или чиновничеству проще так: "Есть Батька, а все остальные — дети неразумные и должны при многочисленных поездках, встречах усердно играть роль таких детей".

Янка Купала когда-то сказал о Беларуси:

*"Сотни лет неприятелем — братом прибитая*
*Ты лежала, беспамятства пылью покрытая".*

Неужели и далее мы будем, как белка в колесе, бежать все по тому же кругу, в атмосфере липкой беспросветной демагогии?..

Времена радикально изменились, а наша нынешняя власть явно опаздывает с осознанием сути изменений. Только один простой пример: в Беларуси уже более 50% населения пользуется интернетом. Интернет ныне уже работает как своеобразный "детектор лжи". Чиновники и органы власти, которые по советской привычке все еще пытаются замалчивать неприятные и компрометирующие их факты, сталкиваются с новой ситуацией! Врать становится "для себя хуже". Более того, врать становится политически опасно. У власти, однако, не хватает смелости это понять.

В XIX веке в Черногории говорили: "На небе — Бог, на земле — Россия". В XXI веке от былого величия России мало что осталось.

И закончить свои размышления о целительной силе Правды мне хочется словами Святейшего Патриарха Кирилла, который, размышляя о нашем времени, сказал: *"Почему мы говорим о нравственном кризисе эпохи? Дело в том, что никогда в прошлом человечество рационально не объясняло и не оправдывало грех... само понятие греха, то есть зла, сегодня принципиально, идеологически, философски ставится на один уровень с правдой, истиной, святостью. Человечество, отталкиваясь от неправильно понимаемого принципа свободы личности, сегодня заявляет о том, что именно человек является автономной от любых ценностей системой; сам человек устанавливает критерии добра и зла.*

*А если сам человек устанавливает критерии добра и зла, то, стало быть, нет различия между добром и злом. То, что одному кажется опасным и разлагающим общественное сознание, для другого — разумный способ ведения политики и бизнеса. Государственные законы пытаются как-то регламентировать происходящее, но они работают в эмпирическом социуме и не достигают глубины, а именно на глубине происходит сегодня стирание грани между добром и злом. А оттуда, из глубины, это стирание граней переходит и в законодательную практику, и мы видим, какие законы сегодня принимаются в Западной Европе: законодательно закрепляется отказ людей от того, чтобы признавать высший критерий в определении добра и зла, в том числе в том виде, как он представлен в нравственной традиции народов. Я думаю, что явление, о котором мы сейчас говорим, является самым опасным. Если задуматься о будущем, то, наверное, род человеческий пресечется и история завершится тогда, когда будет полностью потеряно различие между добром и злом.*

*Будучи ребенком, я спрашивал своего отца об Антихристе. Говорил: "Когда Антихрист придет, он получит поддержку во всем мире, все его примут. Но ведь Антихрист от Диавола, Антихрист — зло. Как же могут люди поддержать зло?! Как могут люди проголосовать за убийства, за растление малолетних?! Невозможно!" Тогда отец сказал мне простую вещь: "Я не знаю, как это будет и как род человеческий до этого дойдет, но если Антихрист явится, то именно потому, что люди перестанут отличать добро от зла". Это было сказано почти 60 лет назад. А сегодня мы можем утверждать, что сама философия общественного развития предполагает не ясное отделение добра от зла, не общественное согласие вокруг непререкаемых фундаментальных нравственных ценностей человеческой жизни, а плюрализм мнений, в том числе в нравственной сфере".*

Слова, которые, как мне кажется, не требуют комментариев.

АФІЦЫЙНА

## Міністр Шчоткіна супакойвае

*Улады Беларусі не плануюць мяняць узрост выхаду на пенсію. Пра гэта паведаміла міністр працы і сацыяльнай абароны **Марыянна Шчоткіна.***

У чацвер яна катэгарычна заявіла, што "*пытанне пра павышэнне пенсіённага ўзросту нават не абмяркоўваецца".*

Адначасова міністр прызналася, што, на яе погляд, накапляльная пенсіённая сістэма — цікавая і прагрэсіўная, аднак у Беларусі на дадзены момант не можа быць выкарыстана, таму што ўлады не могуць гарантаваць вяртання грошай з працэнтамі з улікам інфляцыі.

Нагадаем, што зусім нядаўна Савет міністраў і Нацбанк абнародавалі свае планы рэформ на наступны год. У іх зафіксаваны намер "вярнуцца" да абмеркавання праблемы павышэння пенсіённага ўзросту. Каму ў такім выпадку верыць — незразумела.

**Алег СНОЎ.**

ДАРЭЧЫ

## Ці зменіцца нешта ад перамены назвы?

*Уладзімір Сямашка лічыць неабходным ператварэнне Міністэрства прамысловасці ў Міністэрства прамысловай палітыкі.*

"З-за таго, што ідзе працэс акцыянавання, прыватызацыі, працэс стварэння інтэграцыйных расійска-беларускіх праектаў, нам трэба пераглядаць пытанне кіравання прамысловасцю з галіновага прынцыпу на функцыянальны. Таму што ўсё больш і больш прадпрыемстваў становяцца прыватнымі, сумеснымі, і трэба ствараць адзіныя правілы працы", — падкрэсліў ён. Паводле слоў Сямашкі, неабходна з Міністэрства прамысловасці "стварыць функцыянальнае Міністэрства прамысловай палітыкі, якое будзе вырашаць задачы". "Сёння неадназначнае стаўленне да гэтага працэсу. Мая пазіцыя, што на гэта ісці трэба, хаця ломка няпростая, цяжкая. У Міністэрстве прамысловасці ў многіх ёсць непрыняцце, яны не разумеюць, як будуць працаваць. Там пасля скарачэння на 30% засталося 127 чалавек... Пытанне не ў тым, як у Мінпраме будзе, а як мы справімся, мы ледзь спраўляемся з праблемамі затыкання дзірак на праблемных прадпрыемствах, як зарплату плаціць і гэтак далей. Гэты працэс дастаткова цяжкі, няпросты. Я паставіў задачу, каб міністр прамысловасці ўжо да канца гэтага года прапанаваў сваё бачанне структуры, колькасці, функцый, іх выканання. З такім разлікам, каб да сярэдзіны 2014 года мы мелі рашэнне на заканадаўчым узроўні, як мінімум указ прэзідэнта, а можа, і закон. Каб мы да канца года ўжо сфарміравалі такое міністэрства, а ў 2015 годзе яно б паўнакроўна працавала".

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

Зянон ПАЗЬНЯК:

# «У той дзень сілавікі, магчыма, хацелі і забіць некалькі чалавек...»

*25 гадоў таму, 30 кастрычніка 1988 года, у Беларусі ўпершыню ў найноўшай гісторыі адзначылі Дзень памяці продкаў — "Дзяды". Аб падзеях таго часу "Народнай Волі" распавядае лідар КХП—БНФ Зянон ПАЗЬНЯК.*

**— Зянон Станіслававіч, якім сёння вам успамінаецца той дзень?**

— Той дзень мне ўспамінаецца, быццам бы ён быў учора. Бо падзея была настолькі неардынарная, што яна глыбока ўвайшла ў свядомасць праз эмацыйнае ўспрыняцце...

30 кастрычніка 1988 года я выйшаў з дома зараней. Бачыў, як у горадзе збіраецца тэхніка з вадамётамі, якіх ніхто раней не бачыў. Міліцыя ў дварах, вайсковая тэхніка, людзі ў касках. Таксама былі і ў цывільным. Метро спынілі, мноства народу накіравалася да Маскоўскіх могілак пехам. Людзі ў цывільным пачалі хапаць. І тады ж упершыню ўжылі газ.

**— Наколькі ведаю, і вы атрымалі...**

— Канешне, мяне таксама хацелі схапіць. Ёсць недзе фотаздымак, на якім капітан пырскае мне ў твар слезацечны газ. Тады да мяне кінуліся людзі, акружылі велізарным натоўпам, абаранілі. Увогуле, было зразумела, што рыхтуецца нейкая вялікая і небяспечная правакацыя. Гэта я адчуў адразу. Таму задача была папярэдзіць людзей. Нам удалося прайсці ў ваход на Маскоўскія могілкі і там за паўхвіліны распавесці пра магчымыя правакацыі з ужываннем сілы. Народ папрасілі не ўключацца ў бойкі і не адказваць ударам на ўдар. Бо там было столькі сілавікоў, што маглі і кроў пусціць. Я сказаў: "Ствараем калону і ідзём на Курапаты". Задача была вывесці адтуль людзей. Частка народу стала ў калону, частка засталася на месцы. Але гэта, можа, і добра. Калі мы пайшлі напрасткі праз поле на Курапаты, у міліцыі было замяшальніцтва. Аддаваліся нейкія бязглуздыя каманды, увесь іх план, відаць, перамаўся.

**— Сітуацыя была напружаная?**

— Вельмі напружаная! Гэта добра адчувалася і добра запомнілася. Але тады калона выйшла ў поле, і там адбыўся мітынг. Снег якраз пайшоў... Мы зачыталі дакумент аргкамітэта Беларускага Народнага Фронту, маніфест "Мартыралога Беларусі". Дарэчы, амаль увесь аргкамітэт схапілі. Застаўся толькі я, Уладзя Арлоў, а ў астатнім — незнаёмыя людзі. Але тым не менш тады ўпершыню паднялі бел-чырвона-белы сцяг.

**— Дарэчы, а хто гэты чалавек, што падняў сцяг? І дзе той гістарычны сцяг знаходзіцца зараз?**

— Шчыра скажу: не ведаю. Столькі было людзей... Тады, дарэчы, два сцягі паднялі, але затым гэтыя хлопцы нідзе не праявіліся. Я і не ведаю, што будзе... Усё было экспромтам. Ніхто зараней гэта не планаваў...

**— Аднак вернемся да сітуацыі, калі вы вырашылі правесці мітынг у полі...**

— Сярод прысутных было адчуванне адзінства. У гэты час міліцыя і войска акружылі нас. Калі акружылі, значыцца, быў нейкі намер. І я сказаў прысутным: "Калі кінуцца на нас, нікому не разбягацца. Бяромся за рукі і стаім". Так і атрымалася. Тры тысячы чалавек узяліся за рукі і сталі, як адно цэлае. Міліцыянеры хапалі крайніх, вышморгвалі іх, білі, але ўсіх разагнаць не здолелі. А мы, узяўшыся за рукі, так затым і выйшлі на дарогу. І гэта была наша перамога. Людзей пабілі, але сістэма камуны развалілася. Калі ж мы паблыталі іх карты, стала вядома, што яны мелі намер зрабіць.



**— Як вы аб гэтым даведаліся?**

— Праз некалькі месяцаў адзін палкоўнік міліцыі прынёс майму калегу з аргкамітэта Фронту рэкагнасцыроўку сілавікоў на "Дзяды". І тады стала зразумела, што 30 кастрычніка хацелі пусціць кроў. Заганаць людзей у Стары сад, пачаць малаціць, а можа быць, некалькі чалавек і забіць. А затым усё спіхнуць на Народны Фронт. Назваць "фашыстамі", "бандытамі", "экстрэмістамі" ці "дыверсантамі". Сцэнарый быў адпрацаваны, гэта ўжо было зроблена ў Алма-Аце ў 1986 годзе, калі забілі студэнтаў. Калі б у той дзень людзі паддаліся на правакацыі, народны рух у Беларусі быў бы знішчаны. Распляжылі б ушчэнт!

**— Для гісторыі 30 кастрычніка 1988 года — значная падзея?**

— Падзеі таго дня паўздзейнічалі на сітуацыю ва ўсім Савецкім Саюзе. Таму што кампартыі прыбалтыйскіх рэспублік і самі прыбалтыйскія франты падтрымлівалі свой суверэнітэт. Там не было ўнутранага канфлікту. Яны хацелі выйсці з СССР. У Беларусі быў унутраны канфлікт, бо самым вялікім ненавіснікам Беларушчыны, суверэнітэту, нацыянальнай культуры была беларуская кампартыя. Яны ўсё знішчалі і хацелі пусціць кроў. У той час БНФ стаяў на вастрыні барацьбы з Саюзам. І, калі б тут нас знішчылі, то пасля пачалі б знішчаць нацыянальныя рухі і ў Прыбалтыцы, і ў Малдове, і на Каўказе. Але планы іх былі парушаны, бо мы ў Мінску паказалі, што камуну можна перамагчы і мірным шляхам. На "Дзяды" людзі ішлі з кветкамі, былі знакамітасці... На маіх вачах рэжысёру Купалаўскага тэатра Раеўскаму газам пырснулі, некаторых збілі. І пасля гэтага фактычна ўся творчая інтэлігенцыя аддалілася ад кампартыі. Ужо на наступны дзень Саюз пісьменнікаў даў памяшканне Народнаму Фронту. Так што 30 кастрычніка 1988 года — гэта быў дзень страшэннага паражэння камуністаў.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ЦЕНЫ

## Электроэнергия с начала года подорожала почти в два раза

*С 1 ноября за свет мы будем платить по-новому: согласно постановлению Совета министров, тарифы на электрическую энергию для населения увеличиваются на 8,3%. С начала года это уже шестое повышение. И если сравнить ноябрьские тарифы на электроэнергию с январскими, то получается, что повысились они почти в два раза — на 89%.*

### Как менялись тарифы на электроэнергию

| | Тариф (рублей за 1 кВт·ч) с 1.01.2013 | Тариф (рублей за 1 кВт·ч) с 1.09.2013 | Тариф (рублей за 1 кВт·ч) с 1.11.2013 |
|---|---|---|---|
| 1. Электрическая энергия в жилых домах (квартирах), оборудованных в установленном порядке электрическими плитами: | | | |
| 1.1. одноставочный тариф | **274,4** | **479,1** | **518,9** |
| 1.2. дифференцированный тариф по временным периодам: | | | |
| минимальных нагрузок (с 22.00 до 17.00) | **192,1** | **335,4** | **363,2** |
| максимальных нагрузок (с 17.00 до 22.00) | **548,8** | **958,2** | **1037,8** |
| 2. Электрическая энергия для нужд отопления и горячего водоснабжения с присоединенной мощностью оборудования более 5 кВт: | | | |
| период минимальных нагрузок (с 23.00 до 6.00) | **323,0** | **563,8** | **610,6** |
| остальное время суток | **969,0** | **1691,4** | **1831,8** |
| 3. Электрическая энергия, за исключением указанной в пунктах 1 и 2: | | | |
| 3.1. одноставочный тариф | **323,0** | **563,8** | **610,6** |
| 3.2. дифференцированный тариф п о временным периодам: | | | |
| минимальных нагрузок (с 22.00 до 17.00) | **226,1** | **394,7** | **427,4** |
| максимальных нагрузок (с 17.00 до 22.00) | **646,0** | **1127,6** | **1221,2** |

## З 10 лістапада істотна падаражэе праезд на чыгунцы

Міністэрства эканомікі сваёй пастановай устанавіла новыя тарыфы на перавозку пасажыраў і багажу на чыгунцы. Маюцца на ўвазе гарадскія, рэгіянальныя і міжрэгіянальныя лініі.

У адпаведнасці з дакументам, кошт паездкі цягнікамі на гарадскіх лініях у межах тарыфнага пояса павялічыцца на 42,9% да 5 тысяч рублёў, у межах двух тарыфных паясоў па адным напрамку — на 27,7% да 6 тысяч рублёў. Паездка ў межах двух тарыфных паясоў па двух напрамках будзе каштаваць 10 тысяч рублёў, у межах трох тарыфных паясоў па двух напрамках — 11 тысяч рублёў, у межах чатырох тарыфных паясоў па двух напрамках — 12 тысяч рублёў. Тарыфы на перавозкі пасажыраў цягнікамі на рэгіянальных лініях эканом-класа вырастуць на 28,6%.

Акрамя таго, дакумент павышае ў 1,5 раза тарыфы на праезд пасажыраў чыгуначным транспартам рэгіянальных ліній бізнес-класа, міжрэгіянальных ліній эканом- і бізнес-класа, паведамляе "Интерфакс-Запад".

ЭКСПЕРЫМЕНТ

# Міліцыянераў апранулі ў цывільнае

*Нарады міліцыі ўжо нясуць службу ў цывільнай вопратцы ў Першамайскім і Фрунзенскім раёнах Мінска.*

Пра гэта расказаў першы намеснік камандзіра палка ППСМ ГУУС Мінгарвыканкама Віталь Нілаў. Паводле яго слоў, карысць ад такога прыёму ўжо відавочная: супрацоўнікі ў звычайным адзенні прадухіляюць куды больш правапарушэнняў, чым іх калегі ў форме. У людскім патоку яны не вылучаюцца, могуць наблізіцца да зламыснікаў ўшчыльную, прасачыць за імі, своечасова затрымаць.

*"Эксперымент пачаты па ініцыятыве Галоўнага ўпраўлення аховы правапарадку і прафілактыкі МУС,* — расказаў Віталь Нілаў агенцтву "Мінск-Навіны". — *У першую чаргу цікавая была рэакцыя мінчан, бо яны прывыклі бачыць патрульных міліцыянтаў у форме. Але за гэты час не ўзнікла ніякіх канфліктных сітуацый. Калі такія супрацоўнікі падыходзілі да правапарушальнікаў, прад'яўляючы службовыя пасведчанні, тыя не пярэчылі і выконвалі ўсе патрабаванні праваахоўнікаў".*

Эксперымент працягнецца яшчэ два тыдні.

Дарэчы, майце на ўвазе, што патрульныя, апранутыя ў звычайную вопратку, нясуць службу як мінімум у пары. Яны ўзброены і маюць рацыі.

РЭГІЁН

## Пінскія падаткавікі зачынілі пакістанскі кірмаш

Выставу-кірмаш "Скарбы Усходу", якая праходзіла ў Пінскім гарадскім доме культуры, наведалі падаткавікі. Як высветлілася падчас праверкі, у прадаўцоў не было належных дакументаў на прапанаваны тавар. Да таго ж усе яны былі наняты пакістанскім гаспадаром, які некуды знік.

Падаткавікі вырашылі зачыніць выставу. Што рабіць з неаформленым таварам, будуць вырашаць адпаведныя службы.

